Чацьвер
30 лістапада 2006 г.
№ 15 (23)
наклад 299 ас.
Рэдактар:Ігар Шчэкарэвіч

МП свой горад сваімі рукамі

# ПРАЎДА мастоўская



## Пасьля саміта ў Рызе сустрэча ў Мастах

**Яшчэ 29 лістапада А. Мілінкевіч знаходзіўся ў Рызе, дзе праходзіў саміт краін НАТО, у якой лідэр дэмакратычных сілаў сустракаўся з першымі асобамі краін Еўропы і Амерыкі, уключна з Дж. Бушам, а ўжо 30 кастрычніка ён абыходзіў з мастоўскімі дэмакратычнымі прэтэндэнтамі на кандыдатаў у дэпутаты іх выбарнікаў і збіраў подпісы ў падтрымку сваіх прыхільнікаў.**

Аляксандр Мілінкевіч наведаў некалькі кватэраў шматпавярховых дамоў, дзе сустракаўся і размаўляў з людзьмі, даведваўся аб іх праблемах, збіраў подпісы за незалежных прэтэндэнтаў. Пасьля гэтага лідэр дэмакратычных сіл наведаў райвыканкам, дзе заверыў сабраныя ім подпісы.

Увечары А. Мілінкевіч сустрэўся з мясцовымі актывістамі. На працягу амаль двух гадзін Мілінкевіч адказваў на пытанні, якія тычыліся адносінаў унутры беларускіх дэмакратычных сіл у сталіцы і па ўсёй краіне, планаў на бліжэйшую і далёкую перспектыву, стратэгію дзейнасці дэмакратычных сіл. Ён падкрэсліваў неабходнасць актывізацы працы з грамадзянамі, пашырэння доступу беларускіх грамадзян да альтэрнатыўных крыніц інфармацы і прарыву інфармацыйнай блакады, навязанай сёняшнім кіраўніцтвам Беларусі, якое баіцца любой альтэрнатыўнай інфармацыі. Акрамя таго прэс-сакратар А. Мілінкевіча Павал Мажэйка яшчэ раз пацвердзіў інфармацыю аб адкрыцці з сакавіка 2007 г. беларускага незалежнага спадарожнікава каналу тэлебачання, які будзе асвятляць падзеі ўнутры Беларусі без ідэалагічных правак адміністрацы прэзідэнта.

Мастоўскія незалежныя вылучэнцы на кандыдатаў у дэпутаты дамовіліся аб візіце А. Мілінкевіча падчас сваёй агітацыйнай кампаніі. Некаторыя з іх паспелі сабраць больш за 300 подпісаў у сваю падтрымку пры неабходных 75 подпісах.



*Дж. Буш, Ніно Бурдданадзэ і А. Мілінкевіч падчас сустрэчы на саміце ў Рызе*

А. Мілінкевіч паабяцаў юрыдычную і іншую кансультатыўную дапамогу ў час перадвыбарчай агітацыі.

*Віталь Садоўскі*

## Выборы : среди 70 877 членов избирательных комиссий есть 1 представитель оппозиции

**В Беларуси создано 6 526 избиркомов, в которые вошли 70 877 человек. Их них 48% всех членов комиссий выдвинуты путем сбора подписей, 36% от трудовых коллективов и только 10% от партий, еще 5% от исполкомов.**

От демократических партий в участковые комиссии смог попасть только один представитель ОГП. Каким чудом, пока еще не известно. В комиссии попал 101 представитель пропрезидентской Коммунистической партии Беларуси.

Секретарь ЦИК Беларуси Николай Лозовик снова заявил, что предложений от политический партий на включение своих членов в состав комиссий не поступало: "Практически предложений от политических партий для выдвижения своих кандидатур в состав участковых комиссий на уровне районов, городов районного подчинения, поселков и сельсоветов не поступало". Однако по сообщению партии ОГП только эта партия предложила 531 кандидата в члены избирательных комиссий только в Минске. Ни один из них туда не попал.



Николай Лозовик отметил активность общественных организаций. По его словам, от Федерации профсоюзов Беларуси в эти комиссии вошли 4690 человек, от БРСМ 1 701 человек, от Белорусского союза женщин - 742, от Белорусского общественного объединения ветеранов 499, передает БелТА. Все эти организации являются пропрезидентскими и полугосударственными, что полностью исключает возможность объективного контроля за подсчетом голосов из-за так называемой «игры в одни ворота». Это значит, что президентская вертикаль выдвинает своих кандидатов в депутаты, назначает своих членов комиссий из подчиненных общественных организаций и партий, а также, в большинстве случаев, выставляет своих наблюдателей из тех же полугосударственных общественных объединений. При одновременном давлении на независимых кандидатов путем угроз увольнения, заключения контракта и т.д., а также распространения лживой информации о них же (в политологии эта технология называется "черный PR"), местным администрациям удается провести своих кандидатов в депутаты. Но главное здесь даже не все предвыборные старания вертикали, которые при умелом и старательном планировании кампании независимым кандидатам удается нейтрализовать. Первостепенное значение имеет не то, как люди голосуют, а кто подсчитывает эти голоса. И что мы видим. В избирательных комиссиях на 70 877 членов назначенных вертикалью, только 1 представитель их соперников. Вот вам честные и справедливые выборы.

*Ольга Новицкая*

# З афіцыйных прафсаюзаў масава сыходзяць працоўныя

**130 працаўнікоў АТ "Добрушская папяровая фабрыка "Герой працы" напісалі заявы аб выхадзе з афіцыйнага прафсаюза працаўнікоў леса. Усе яны незадаволеныя нізкай зарплатай і цяжкімі ўмовамі працы, і лічаць, што прафсаюз нічога не робіць для таго, каб змяніць сітуацыю, паведамляе www.praca-by.info.**

"Для нас гэта беспрэцэдэнтны выпадак", адзначыў старшыня Беларускага прафсаюза працаўнікоў леса Іван Гурскі.

У той жа час ён пацвердзіў, што праблемы нізкай зарплаты існуюць практычна на ўсіх цэлюлозна-папяровых прадпрыемствах галіны. "Мы гэтае пытанне неаднаразова ўзнімалі і на ўзроўні ўрада, і на ўзроўні Сідорскага. У нас вельмі буйныя прадпрыемствы, старое абсталяванне, арэнда зямлі вельмі дарагая. Усё гэта прыводзіць да высокага сабекошту прадукцыі. Падаткі складаюць больш за палову сабекошту. Мы не можам канкурыраваць з прыватнымі прадпрыемствамі. Яны маленькія, займаюць невялікія плошчы, працуюць на сучасным абсталяванні, і іх зараз некалькі сотняў у краіне", распавёў Іван Гурскі.

Ён паведаміў, што ў ліпені гэтага года ў Івацэвічах адбылося паседжанне з удзелам Лукашэнкі, на якім абмяркоўвалася сітуацыя ў галіне. Было вырашана ў 2007 годзе правесці рэструктурызацыю буйных прадпрыемстваў і пабудаваць шэраг новых дрэваапрацоўчых фабрыкаў. Для гэтага ўраду даручана садзейнічаць у прыцягненні інвестыцый. А пакуль кіраўніцтва афіцыйнага прафсаюза супакоіла працоўных, папрасіўшы іх трохі пачакаць і пацярпець.

"Сітуацыя пад кантролем, засведчыў старшыня Гомельскага абласнога камітэта прафсаюза працаўнікоў лесу Віктар Крыўко-Красько. Мы правялі сход, растлумачылі людзям, што сітуацыя склалася цяжкая, няма сыравіны, Расея рынкі зачыніла. План выконваецца ў лепшым выпадку працэнтаў на 90. Адкуль узяцца высокім заробкам? А людзі жадаюць працаваць. Добрушская фабрыка гэта горадаўтваральнае прадпрыемства. Сыходзіць людзям няма куды.

*www.praca-by.info*

# Еўрасаюз запрашае Беларусь. Кіраўніцтва адмаўляецца. А як народ?

**У рэдакцыю трапіў дакумэнт з канкрэтнымі прапановамі Еўрасаюза, з якімі ён звяртаецца да народу Беларусі. Гэтыя перавагі разглядаюцца ў рамках праграмы "Палітыка добрасуседства", якую ўсяляк стараюцца схаваць улады, крытыкуючы прапановы ва ўсіх сродках масавай інфармацыі і ня кажучы, што ж канкрэтна прапанавана.**

Для жыхароў Мастоў як для горада, які знаходзіцца блізка да мяжы з Еўрасаюзам, найбольш важнымі з'яўляюцца некаторыя пункты прапановаў. Гэта ў першую чаргу спрыянне паездкам беларускіх грамадзян у краіны Еўрасаюза, у тым ліку Польшу, Літву, Нямеччыну і г.д. Потым немалаважнае значэнне мае дапамога малым і сярэднім прадпрыемствам. ААТ "Мастоўдрэў" даўно патрабуе інвестыцыяў, аднак беларуская дзяржава не можа ў поўнай меры іх даць, нягледзячы на хуткую перадачу прадпрыемства ў дзяржаўныя рукі. Таксама з дапамогай Еўропы з'яўляецца магчымасць стварэння новых малых і сярэдніх вытворчых магчымасцяў, што дало бы жыхарам Мастоў новыя працоўныя месцы, якіх так не хапае ў горадзе. Таксама важнай падаецца магчымасць супрацоўніцтва ў сферы аховы навакольнага асяроддзя. Тыя, хто жывуць або часта бываюць каля ААТ "Мастоўдрэў", разумеюць неабходнасць закупкі новых ачышчальных сродкаў. Узімку нават снег вакол прадпрыемства мае шэры колер з-за выкідаў, аднак завод самастойна ня можа з гэтым справіцца з-за цяжкой фінансавай сітуацыі, а дапамога Еўрасаюза была бы дарэчы. Мастоўцам можна было б выкарыстаць і з прапановы ў дапамозе перапрацоўкі адыходаў. Таксама немалаважным для мастоўскіх прадпрыемстваў і тавараў, якія яны прадукуюць, было бы адкрыццё рынкаў краінаў Еўрасаюза. Калі браць агулам, гэта дапамога для Мастоўшчыны можа быць на некалькі соцен тысяч еўра, а можа і некльі мільёнаў. Усё залежыць, ці дасць нам з гэтага скарыстацца кіраўнік дзяржавы.

Дзеля чаго гэта патрэбна еўрапейцам. На працягу пасляваенных дзесяцігоддзяў Еўропа была ахоплена ідэяй пабудовы грамадства ўсеагульнага дабрабыту. Яшчэ ніколі ў Еўропе не жылі так заможна, як у апошнія гады. Еўрапейцы дасягнулі сваёй мэты, яны пабудавалі дзяржаву ўсеагульнага дабрабыту - і больш нічога не патрабуюць, акрамя захавання такой сітуацыі. Аднак еўрапейцы разумеюць, што немагчыма ўсё захаваць у такім стане, калі суседзі будуць знаходзіцца ў галечы. Ад такіх краінаў заўсёды будзе сыходзіць пагроза, таму яны распрацавалі праграму "Палітыка добрасуседства", мэта якой - дапамога памежным з Еўрасаюзам краінам у эканамічным, сацыяльным і палітычным развіцці дзеля стварэння на межах Еўрасаюзу зоны дабрабыту, стабільнасці і бяспекі. Усё залежыць толькі ад беларускага ўраду, нават ад аднаго чалавека - беларускага кіраўніка дзяржавы, скарыстаюцца беларусы перавагамі еўрапейскай "палітыкі добрасуседства" ці не скарыстаюцца.

*Віталь Садоўскі*

## Количество участников голодовки католиков в Гродно увеличилось

Число голодающих в Гродно католиков римско-католической общины Пресвятой Девы Марии Остробрамской, Матери милосердия увеличилось до 15 человек. Об этом сообщил в субботу один из участников акции протеста верующих, настоятель общины ксендз Александр Шемет.

## Дазваленчы штамп на выезд будзе скасаваны 30 снежня 2007 года

Дазваленчы запіс для выезду за межы Беларусі ў пашпартах будзе скасаваны 30 снежня 2007 года, заявіў на прэс-канферэнцыі ў Менску старшыня дзяржаўнага камітэта памежных войскаў Беларусі генерал-лейтэнант Аляксандр Паўлоўскі. "30 снежня 2007 года адзнака будзе скасаваная", сказаў ён.

Ён адзначыў, што "гэта кансалідаваная пазіцыя ўсіх зацікаўленых ведамстваў, у тым ліку і Канстытуцыйнага суду Беларусі", паведамляе "Інтэрфакс".

## АЭС будзе пабудаваная ў Чавусах альбо на заходняй мяжы Беларусі

Аляксандр Лукашэнка падтрымаў прапановы ўрада і Акадэміі навук аб будаўніцтве ў краіне атамнай электрастанцыі, якая можа быць пабудаваная ў Магілёўскай вобласці, заявіў старшыня прэзідыўма Нацыянальнай акадэміі навук (НАН) Міхаіл Мясніковіч, перадае "Інтэрфакс".

Па словах Мясніковіча, падчас нарады быў разгледжаны шэраг пляцовак на якіх можа быць пабудаваная АЭС, аднак "перавага аддаецца Краснапалянскай пляцоўцы ў Чавускім раёне Магілёўскай вобласці, разам з тым не выключана, што АЭС можа з`явіцца і ля заходніх меж краіны.

**Ад рэдакцыі:** Пабудова атамнай электрастанцыі каля заходніх межаў азначае адносна недалёкае месцазнаходжанне ад нашага горада, што будзе несці прамую пагрозу і жыхарам Мастоў.

**паводле TELEGRAF.BY, TUT.BY**

**МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА**

грамадска-інфармацыйнае выданне Мастоўшчыны

№ 15 (23) 30 лістапада 2006 г.

**Заснавальнік: Аляксандр Зарэмбюк.** дэпутат 24 склік. Мастоўскага райсавета.

**Галоўны рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч.**

**Верстальшчык: Сяргей Губарэвіч.**

Наклад: 299 асобнікаў.

Адрас рэдакцыі: г. Масты вул. Я.Купалы 1 . Беларусь.

Надрукавана на фінасавыя ахвяраванні жыхароў г. Масты ў друкарні ААТ Бліц-Прынт, г. Кіеў вул. Даўжэнка, 9.

Выходзіць 2 разы на месяц.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць інфармацыі. Іх меркаванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюцьна яе ніякіх абавязкаў.